

Арт: @nick_pcholkin



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ?**

**ПАДТРЫМАЙЦЕ**

**БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ**

**І КАМПАНІЮ "SAVE OUR SONGS"**

# 1. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ



***Аляксей Сапрыкін***, актор, актывіст, затрыманы ў нядзелю 6 снежня, атрымаў **15** сутак арышту.

***Паўлу Хадзінскаму***, фатографу з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, 9 снежня за фота ў Instagram прысудзілі **10** сутак арышту па п.1 арт. 23.34. Справу яшчэ па адным фота даслалі на дапрацоўку.





***Мікіту Самарына*** з Гародні вінавацяць у парушэнні 364 артыкула Крымінальнага кодэксу (гвалт альбо пагроза прымянення гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў).
11 снежня суд Гародні прысудзіў яму **4** гады абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу і **500** рублёў кампенсацыі, якую ён мусіць выплаціць пацярпеламу.
Мікіту затрымалі 6 кастрычніка, за тое, што ён пырснуў пярцовым балончыкам у бок тых, хто гвалтоўна затрымлівалі людзей, пазней ён хаваўся.
Мікіту жорстка збівалі і здзекваліся, пры катаваннях хлопцу нажом адрэзалі доўгія валасы, а таксама пырскалі ў вочы газавым балончыкам.
Мікіта працяглы час займаўся рамонтам старых аўтамабіляў, з'яўляецца сябрам клуба рэканструктараў рэтрааўтамабіляў „Вінтаж". Не раз удзельнічаў у фотасэсіях і гарадскіх фэстах.



***Наталля Хершэ***, беларуска, якая апошнія 12 гадоў жыла ў Швейцарыі і прыляцела ў Беларусь увосень, каб на ўласныя вочы ўбачыць, што адбываецца, была затрыманая на жаночым маршы ў Мінску 19 верасня.
За тое, што Наталля сарвала балаклаву з амапаўца, яе асудзілі на **2,5** гады зняволення.
Наталля – таксама мастачка. У Швейцарыі ў яе была выстава, партрэты, намаляваныя ёю, убачаць і ў Беларусі. Гісторыя Наташы тут.

***Уладзіславу Макавецкаму***, віцебскаму мастаку, які знаходзіцца пад вартай з 26 лістапада, пагражае да **6** гадоў турмы – ён абвінавачваецца ў гвалце ў дачыненні супрацоўнікаў унутраных спраў (арт. 364 КК).
Паводле абвінавачання, 6 верасня падчас сутыкнення пратэстоўцаў з міліцыяй на вуліцы Праўды Макавецкі замахнуўся гумовай міліцэйскай палкай, якую падняў з зямлі, у бок супрацоўніка і выказваў нібыта вусныя пагрозы. Уладзіслаў Макавецкі заявіў, што не прызнае віны.



## ЗАТРЫМАНЫЯ Ў НЯДЗЕЛЮ 13 СНЕЖНЯ:



***Лера Лазук (Турчынава)***, мастачка



***Аляксей Крышталь***, джазавы кантрабасіст, які выступаў з Паўлам Аракелянам на дваровых канцэртах, атрымаў **12** сутак арышту.





***Каця Чэкатоўская,*** драматургіня, акторка. Гэта Каціна другое затрыманне, першы раз яна атрымала штраф. 14 снежня суд прысудзіў Каці **17** сутак адміністратыўнага арышту.

Фота: Facebook

# 2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, ЗАБАРОНЫ




Фота: СХТ

**СУЧАСНЫ МАСТАЦКІ ТЭАТР, ЯКІ ВОСЕННЮ ДАЛУЧЫЎСЯ ДА СТРАЙКУ, ВЫМУШАНЫ СПЫНІЦЬ ПРАЦУ.**

Прычына: ужо два месяцы ім не падпісваюць “гастрольку”, гастрольнае пасведчанне, без якога яны не могуць паказваць спектаклі.



***Сяргея Клімава***, дырэктара Нясвіжскага замка, дзякуючы якому замак са стану заняпаду ператварыўся ў абавязковую для наведвання турыстычную каштоўнасць, цішком звольнілі, не патлумачыўшы прычынаў.

# 3. ЦІСК ЗА СІМВОЛІКУ



Двух мінчукоў, ***Андрэя Мароза*** і ***Вікторыю Ляшчынскую***, забралі з кватэр за сцягі на вокнах і 7 снежня ім прысудзілі **13** сутак, а сцягі пастанавілі знішчыць.
У Мінску за сцягі «бел-чырвона-белых колераў» у вокнах і на балконах склалі ўжо больш за 20 пратаколаў і накіравалі справы ў суд, бо сцягі на вокнах, па меркаванні МУС і судоў, – гэта масавае мерапрыемства, пікетаванне, якое караецца згодна з артыкулам 23.34, калі яно не было ўзгоднена.



Цяпер ***міліцыя*** цікавіцца жыхарамі дамоў, на чыіх вокнах вісяць бел-чырвона-белыя навагоднія гірлянды.



Да ***Аляксея Барысава***, жыхара Магілёва, міліцыя прыйшла з-за сцяга, які вісеў у яго на балконе.
У выніку ў яго канфіскавалі не толькі сцяг, але і ўсе рэчы, дзе знайшлі БЧБ-сімволіку, а таксама ўсю тэхніку: ноўтбук, кампутар, тэлефон.



Фота: Facebook

**ДА КАСТУСЯ ЛІСЕЦКАГА, ТЭХНІЧНАГА РЭДАКТАРА ЧАСОПІСА “РОДНАЕ СЛОВА” І БАС-ГІТАРЫСТА ГУРТА RECHA, ПРЫЙШЛА МІЛІЦЫЯ ПРАЗ ФОТА СЦЯГА Ў ЯГО АКНЕ, ХАЦЯ САМ СЦЯГ ТАМ ДАЎНО НЕ ВІСЕЎ.**

Яму паставілі ўльтыматум: альбо ён падпісвае, што згодны з пратаколам і яму даюць позву ў суд, альбо затрымліваюць і прыпісваюць непадпарадкаванне.

Кастусь быў вымушаны пагадзіцца, інакш дзеці засталіся б дома самі.



ПРЕДПИСАНИЕ

СУХИЙ ИРИНА ГЕОРГИЕВНА
(фамилия, имя, отчество)

в неустановленный период времени с целью публичного выражения св
общественно-политических интересов, провел(а) массовое мероприяти
виде пикетирования, на проведение которого не было получен
соответствующее разрешение Мингорисполкома, путем размещения
остеклении (на стене) балкона кв... расположенной по адресу:
г. Минск, ПР-Т НЕЗАВИСИМОСТ...
флага бело-красно-белой расцветки (и... предметов с аналогично
расцветкой) для демонстрации гражданам, что было обнаружено
03.12.2020 в 10.00 часов
(дата) (время)

в ходе визуального осмотра вышеуказанного жилого дома, чем
нарушил(а) установленный ст. 10 Закона Республики Беларусь
«О массовых мероприятиях в Республике Беларусь» порядок прове
пикетирования, являясь участником такого мероприятия, при от
этих деяниях состава преступления.

Ответственность за данное административное
предусмотрена ч. 1 ст. 23.34 КоАП Республики Бе
предупреждение, или наложение штрафа до тридцати
или административный арест.

На основании вышеизложенного, Вам необходим
красной-белой расцветки (иные предметы с аналогичн

Директор предприятия

Фота: greenbelarus.info

***Ірына Сухій***, лідарка экалагічнага руху, фатографка, удзельніца праекта “Беларускі клімат”, атрымала пісьмовае распараджэнне ад камунальных службаў з патрабаваннем прыбраць з вокнаў сімволіку і папярэджаннем пра адказнасць.

Пры гэтым на вокнах і балконе Ірыны няма сімволікі – верагодна, камунальныя службы памыліліся кватэрай пры візуальным аглядзе дома.



# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ








Мастак ***Андрэй Пакроўскі*** прысвяціў новы <u>твор</u> ***Уладзю Лянкевічу***

Новая праца ***Уладзіміра Цэслера***.

Новы арт ад ***Ганны Радзько*** ў суаўтарстве з ***Юліяй Ляшкевіч***.




Распачаўся праект ***"Традыцыйны строй"***, рэалізаваны ўстановай "Этнатрадыцыя" супольна з Цэнтрам даследавання беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі.
Праект "Традыцыйны строй" – гэта першая онлайн энцыклапедыя аўтэнтычных традыцыйных строяў Беларусі.

Яна будзе змяшчаць каля 15 відэакліпаў ды шэраг майстар-класаў. Да кожнага відэакліпа будзе далучана адмысловая інфармацыя з дэталёвым тлумачэннем рэгіянальных адметнасцяў. Цяпер, калі беларусы актыўна цікавяцца сваёй культурай, гэты праект падаецца вельмі патрэбным і своечасовым.



Фота: Youtube

***"Вольны хор"*** заспяваў гімн "Магутны Божа" на мемарыяле "Яма" да Міжнароднага дня памяці ахвяраў генацыду, які адзначаецца 9 снежня. Пры гэтым спевакі трымалі ў руках расцяжку з надпісам "Крымінальны кодэкс Рэспублікі. Беларусь. Артыкул 127. Генацыд". Мемарыял "Яма" створаны ў памяць пра ахвяраў габрэйскага гета Мінска — самага вялікага на тэрыторыі СССР: у ім было каля 100 тысяч чалавек. Большасць іх загінулі ў Халакосце.




Славуты ***"Вольны хор"***, які цягам апошніх чатырох месяцаў падтрымліваў беларусаў у іх празе да свабоды, 12 снежня ўпершыню зладзіў вялікі анлайн-канцэрт.

Хор заспяваў сольны альбом "Годныя песні", які складаецца з тых самых песень , што дапамагаюць перажыць складаныя часы і даюць веру ў лепшае. Глядзіце запіс па спасылцы.



Фота: Youtube








**АНДРУСЬ ТАКІНДАНГ, МУЗЫКА, ЯКІ АДСЕДЗЕЎ 15 СУТАК ЗА ВЫСТУП НА ДВАРОВЫМ КАНЦЭРЦЕ, РАБІЎ ЗАМАЛЁЎКІ ПРА ЖЫЦЦЁ І ПОБЫТ У ЗНЯВОЛЕННІ.**

***Віка Багдановіч***, мастачка, якую затрымалі 26 верасня і прысудзілі да **14** сутак, у Баранавічах рабіла замалёўкі пра жыццё за кратамі. Малюнкі і гісторыі, звязаныя з імі, – у матэр'яле Citydog.by.






Трансляцыя запісу першага канцэрта гурта ***TonqiXod***, які прайшоў у РТБД, адбылася 12 снежня.
Падчас пратэстаў-2020 усе ўдзельнікі гурта былі затрыманыя, асуджаныя і прайшлі праз турму.

Вакаліст і аўтар песень ***Уладзь Лянкевіч*** паўторна асуджаны (першы раз - **6** сутак, цяпер - **15** сутак).
Усе сродкі, сабраныя падчас трансляцыі гэтага запісу, будуць перададзеныя музыкам з гурта.



**ПАДТРЫМАЦЬ МОЖНА ТУТ**









Гурт ***"Разбітае сэрца пацана"*** мусіў граць дваровы канцэрт для жыхароў Масюкоўшчыны, але на месца канцэрта прыехалі сілавікі – забралі некалькіх хлопцаў.
Канцэрт адбыўся анлайн.

***Алена Каданава***, беларуска, якая жыве ў Познані, запісала песню “Я выхожу” на верш беларускай паэткі ***Тані Светашовай***.
Яна прысвечаная забойству ***Рамана Бандарэнкі***.

***Выкладчыкі і супрацоўнікі*** Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтва запісалі моцны відэазварот “У мяне ёсць мара”, які нікога не пакіне абыякавым

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



Фота: Наша ніва

**АЛЯКСАНДР ПАМІДОРАЎ, ЛЕГЕНДАРНЫ БЕЛАРУСКІ РОК-МУЗЫКА, ЯКІ Ў КАНЦЫ ЛІСТАПАДА ЗВОЛЬНІЎСЯ З «РАДЫЁ РОКС», А ДА ГЭТАГА СПЯВАЎ У ПАДТРЫМКУ БАСТУЮЧЫХ, ВЫСТУПАЎ НА ДВАРОВЫХ КАНЦЭРТАХ І АДСЕДЗЕЎ СУТКІ Ў ЖОДЗІНА, ПАГУТАРЫЎ З НАШАЙ НІВАЙ ПРА ДЗЁРЗКІЯ РАЗМОВЫ Ў ТУРМЕ, ПРА МУЗЫКАЎ НА БАКУ ЎЛАДЫ, ПРА ЗВАННІ РОКЕРАМ І ТОЕ, ЯК УЛАДА САМА ПАФАРБАВАЛА ГРАМАДСТВА Ў БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ.**

**“ТЫ РАЗУМЕЕШ, ШТО ТАКОЕ СЯБРЫ, І ШТО НЕЧАГА ДЛЯ КАГОСЬЦІ НЕ ЗРАБІЎ, ХАЦЯ МОГ. УЖО ПА-ІНШАМУ БУДУЕШ АДНОСІНЫ З ЛЮДЗЬМІ, КАМУНІКУЕШ З НЕЗНАЁМЫМІ НА ВУЛІЦЫ. УСВЕДАМЛЯЕШ КАШТОЎНАСЦЬ РАЗМОВЫ, ВАГУ СЛОВА, ВАРТАСЦЬ ЗВЫЧАЙНАЙ ПАПЯРОВАЙ КНІГІ, ВАЖНАСЦЬ ПАДТРЫМКІ, КОШТ СВЕЖАГА ПАВЕТРА, НАВАТ КАЛІ ЦЯБЕ ВЫВЕЛІ ПАГУЛЯЦЬ У КАМЕННУЮ ТУРЭМНУЮ БАНКУ БЕЗ ДАХУ І ТЫ ЧУЕШ, ШТО НЕДЗЕ ІДЗЕ ЦЯГНІК, БРЭШУЦЬ САБАКІ, АДЧУВАЕШ ПАХ ЧЫГУНАЧНАГА МАЗУТУ. РАЗУМЕЕШ ВАЖНАСЦЬ ТАГО, КАБ ПАДТРЫМАЦЬ СУСЕДЗЯЎ І ЗАГНАЦЬ ПРАЗ БАЛАНДЗЁРА ПЕРАДАЧКУ З КАМОРЫ Ў КАМОРУ І АТРЫМАЦЬ У АДКАЗ УДЗЯЧНЫ СТУК”.**



Фота: ultra-music

**ІЛЛЯ ЧАРАПКО-САМАХВАЛАЎ, ЛІДАР ГУРТОЎ «ПЕТЛЯ ПРИСТРАСТИЯ» І «КАССИОПЕЯ», ЯКІ БЫЎ ЗАТРЫМАНЫ 22 ЛІСТАПАДА І АДСЕДЗЕЎ 15 СУТАК, РАСПАВЁЎ ПРА СВОЙ ПЕРШЫ ТУРЭМНЫ ВОПЫТ.**

***“Мне даслалі шмат лістоў. Я не змог адказаць на ўсе, бо ў нас у камеры быў толькі адзін стрыжань. Я б хацеў усім падзякаваць за паштоўкі, за цёплыя словы — гэта дапамагло не толькі мне, але і маім сукамернікам, якія з задавальненнем слухалі лісты. Людзі дасылалі крыжаванкі, імі самімі складзеныя, размалёўкі. Пісалі і сябры, і незнаёмыя наогул. Салідарнасць мяне вельмі ўразіла”.***

***Ганна Радзько***, беларуская мастачка-ілюстратарка, сваю пазіцыю датычна падзей, што адбываюцца ў Беларусі, выказвае праз мастацтва.
На яе малюнках, вельмі пазнавальных адметным стылем, – палітзняволеныя, героі пратэстаў і ключавыя моманты беларускай гісторыі апошніх месяцаў.
Чытайце інтэрв’ю з Ганнай па спасылцы.



Фота: natatnik.by



**ВОЛЬГА БАРАБАНШЧЫКАВА, БЫЛАЯ ТЭНІСІСТКА І СПЯВАЧКА, ВЫКАЗАЛАСЯ ПРА СПРОБУ ЎЛАДАЎ ЗАБАРАНІЦЬ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЦЯГ:**

***“Яны могуць сарваць хоць усе сцягі з вокнаў мірных жыхароў, але ім ніколі ўжо не сцерці гэтых жудасных малюнкаў з нашай памяці. Ніколі не атрымаецца ўжо вярнуцца ў "так, як было".***
***Як было – не будзе.Будзе лепш! Значна лепш. Але інакш.***
***Бо мы прачнуліся, і даведаліся, што мы адно ў аднаго ёсць. І што нас шмат, і нам не напляваць. У нас ёсць пачуццё салідарнасці і ўласнай годнасці. Мы многае ведаем пра жыццё і тое, як быць павінна. Мы гатовыя выйсці з зоны камфорту, каб дапамагчы незнаёмаму, але свайму”.***






***Уладзь Лянкевіч***, музыка, паэт, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра, які быў затрыманы 6 снежня і атрымаў **15** сутак арышту, паспеў паразважаць у эфіры Euroradio пра тое, чаму сёння кожны творчы чалавек павінен далучыцца да працэсаў абуджэння нацыі, чым гэтыя працэсы падобныя да музыкі і чаму ў “напісанні” гэтай музыкі важны ўнёсак кожнага.
Выпуск "Ідэі Х" з Уладзем Лянкевічам можна паглядзець па спасылцы.



**ТАРАС КРУЦКІХ (ТАРНАЛІЦКІ), БЕЛАРУСКІ КІНАКРЫТЫК, ВЫЙШАЎ НА ВОЛЮ ПАСЛЯ 25 СУТАК АРЫШТУ. ЁН БЫЎ СЯРОД ЗАТРЫМАНЫХ 15 ЛІСТАПАДА, ЯКІХ ПРЫМУСІЛІ 12 ГАДЗІН СТАЯЦЬ НА МАРОЗЕ ЎЗДОЎЖ СЦЯНЫ САВЕЦКАГА РУУСА.**

***“Есть интересный фильм Рогожкина "Чекист" по поводу 1937 года, когда три человека зачитывали небольшую характеристику задержанного и решали, нужно ли его расстреливать. "Кто за? Все за. Расстрел".***
***Здесь было все то же самое, только тебя сажали на "сутки". Так что это такая "лайтовая" версия 1937 года”.***





***Каця Пытлева***, былая вядоўца беларускага тэлебачання і радыё, якая звольнілася на пратэст з падзеямі жніўня ў Беларусі і вымушаная была з’ехаць з Беларусі праз пагрозу пераследу, распавяла пра youtube-канал Malanka Media, на якім выходзяць навіны, аналітычныя праграмы, дакумэнтальныя фільмы і іншая праўдзівая інфармацыя пра Беларусь, а таксама пра рэпрэсіі, ціск і тое, хто цяпер працуе на БТ.

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

АКЦИЯ Жыве Беларусь! Эпизод 3

В новом дайджесте нашей акции "Жыве Беларусь" - сила любви Максима Леонидова, мощный ролик от Макса Покровского, привет от Faith No More и Павла Фахртдинова... И партизаны!

**НАЙСТАРЭЙШЫ РАСЕЙСКІ МУЗЫЧНЫ ПАРТАЛ ZVUKI.RU АПУБЛІКАВАЎ УЖО ШЭСЦЬ МУЗЫЧНЫХ СЭТАЎ У РАМКАХ АКЦЫІ "ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ",**

**ПАДТРЫМАЦЬ БЕЛАРУСКІХ ТВОРЦАЎ І БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ. ПАСЛУХАЦЬ СЭТЫ І ПАДТРЫМАЦЬ МУЗЫКАЎ МОЖНА ТУТ.**






Вечар беларускіх паэтак прайшоў 12 снежня ў Санкт-Пецярбургу. На ім гучалі вершы ***Вольгі Гапеевай, Насты Кудасавай, Крысціны Бандурынай, Дар'і Бялькевіч, Ганны Комар, Юлі Цімафеевай*** і ***Ксеніі Валенды***.



Фота: Яўген Ярчак

**У МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА 10 СНЕЖНЯ ШЭРАГ НЕДЗЯРЖАЎНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ ЗАКЛІКАЛІ ДА АДКАЗНАСЦІ І СПЫНЕННЯ РЭПРЭСІЙ У БЕЛАРУСІ, У ТЫМ ЛІКУ ЖОРСТКІХ НАПАДАЎ НА СІМВАЛЫ І НА ІНШЫЯ ФОРМЫ КУЛЬТУРНАГА СУПРАЦІВУ ПАЭТАЎ, МАСТАКОЎ, МУЗЫКАЎ І ІНШЫХ АСОБ.**






Расійскі гурт ***"Танцы мінус"*** прысвяціў сваю новую песню "За шагом шаг" памяці мастака ***Рамана Бандарэнкі.***

Польскі музыка ***Барташ Шчэсны***, натхніўшыся Беларуссю, прысвяціў песню To mój dom ("Тут мой дом") усім, хто змагаецца за свае правы.

# 7. РОЗНАЕ



**ЯЎГЕН МАЛІКАЎ, ЛІТАРАТАР І МАСТАЦТВАЗНАЎЦА З МАГІЛЁВА, ЯКІ БЫЎ ЗВОЛЬНЕНЫ З БЕЛГУТА, ДЗЕ ЁН ПРАЦАВАЎ 16 ГАДОЎ, ПРАЗ АКТЫЎНУЮ ГРАМАДЗЯНСКУЮ ПАЗІЦЫЮ, ПАДАЎ ІСК, КАБ АБСКАРДЗІЦЬ СВАЁ ЗВАЛЬНЕННЕ.**

НА СУДОВЫМ ПАСЕДЖАННІ 11 СНЕЖНЯ БЫЎ ВЫЯЎЛЕНЫ ШЭРАГ НЕДАКЛАДНАСЦЯЎ З БОКУ АДМІНІСТРАЦЫІ ЎНІВЕРСІТЭТА, ТАМУ СПРАВА НАКІРАВАНАЯ НА ДАПРАЦОЎКУ.

